Дадатак да газэты „Камунар Магілеўшчыны"

ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# ТЭРАРМЕЕЦ

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ У МЕСЯЦ

№ 8 Пятніца 22 лістапада 1929 г. № 8

## Выканаем свае новыя задачы

„Тэрармеец" быў створаны ў часе манэўраў—гэтай вялікай праверкі вучобы нашай дывізіі, здольнасьці яе да абароны сацыялістычнага будаўніцтва. Ня гледзячы на надзвычайна цяжкія тэхнічныя ўмовы выданьня газэты, складанасьці сувязі з вайскорамі, ня гледзячы на цяжкасьці ў дастаўцы газэты чырвонаармейскай масе, „Тэрармеец" свае задачы выканаў добра.

Цяпер ён выходзіць зноў, але ўжо пры другіх умовах. Прыцэл „Тэрармейца" цяпер павінен быць на паміжзборавую работу, на работу чырвонаармейцаў пераменнага складу, якія, выконваючы вялікую праграму пяцігодкі, вялікі плян практычнай працы будаўніцтва сацыялізму ў горадзе і на вёсцы, працягваюць разам з тым працу па ўзьняцьці баяздольнасьці сваіх частак.

Дапамагаць пераменьніку ў паміжзборавай рабоце, асьвятляць яе ход, біць па слабых мясцох ваеннай работы, уносіць, як і ў часе манэўраў, мэтад сацыялістычнага спаборніцтва ў паміжзборавую работу, мэтад самакрытыкі, забясьпечваць ва ўсёй рабоце правядзеньне цьвёрдай клясавай лініі—вось асноўныя задачы, якія ён мусіць выканаць. І ён іх выканае тады, калі, як было і ў часе манэўраў, вайскоры, усе чырвонаармейцы-пераменьнікі, уся чырвонаармейская грамадзкасьць яго падтрымае. На манэўрах мы накапілі вопыт працы з запалам і творчым уздымам, уласьцівым толькі нашай арміі, арміі краіны працоўных, краіны дыктатуры пралетарыяту.

Перанясем-жа гэты вопыт, гэты запал, уздым і творчую ініцыятыву на шпальты „Тэрармейца" пры новых умовах яго працы.

Пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі ўперад, да новых дасягненьняў!

## Тав. Я. Гамарнік



Начальнік ПУР'а РСЧА, уведзены апошнім пленумам ЦК УсеКП(б) у склад аргбюро ЦК.

## Падарунак Далёка-Усходняй

☐ **Калектыўна на 50 рублёў** 3-яе пазыкі набылі рабочыя і служачыя Магілеўскага „Мэталь-Вадаснабу" і краватнай арцелі „Производитель".

Яны пастанавілі **перадаць гэтыя аблігацыі ў падарунак Далёка-Усходняй Чырвонай арміі.**

Яны выклікаюць сьледваць іхнаму прыкладу ўсе арцелі Магілеву.

☐ **На 40 рублёў** калектыўна падпісаліся вучні Ермалавіцкай школы, Магілеўскага раёну.

## ДА УСІХ ПЕРАМЕНЬНІКАЎ

Да вас у першую чаргу зварачваецца рэдакцыя „Тэрармейца". Вы павінны быць яе сталымі і актыўнымі дапаможнікамі-вайскорамі.

Здарэньні на нашых Дальне-Усходніх межах даюць пэўны сыгнал. Скарачаецца тэрмін мірнай перадышкі і расьце рэальная пагроза ўзброенага нападу на СССР на больш шырокім фронце. Здарэньні на Усходзе ёсьць спроба імпэрыялістычных сіл усяго сьвету прашчупаць магутнасьць.

Адгэтуль выбягае, што задача ваенізацыі насельніцтва і ўздым нашай баявой падрыхтоўкі—задача вельмі важная, накладаючая вядомы абавязак на кожнага працоўнага нашай старонкі. Вайсковая прапаганда сярод насельніцтва, асабліва—працоўнага сялянства, яшчэ да гэтага часу нас здаволіць ня можа. Вельмі шмат ёсьць недахопаў і ў рабоце нашага пераменьніка.

Мы паставілі задачу: праз старонкі „Тэрармейца" спрыяць вашай працы па ўздыму баяздольнасьці краіны Саветаў.

Праз газэту пераменьнік можа і павінен трымаць самую шчыльную сувязь з сваёй часткай.

Задача пераменьніка на вёсцы—быць актывістам у сацыялістычнай перабудове сельскае гаспадаркі, у барацьбе з клясавым ворагам-кулаком, які перашкаджае гэтай перабудове. Разам з гэтым трэба пашыраць свой кругагляд у вайсковай справе, працягваць сваё вайсковае навучаньне, быць зачынальнікам вайсковай работы сярод усяго працоўнага насельніцтва.

Выканаць, як належыць, свае абавязкі і задачы будзе куды лягчэй тады, калі кожны пераменьнік стане падтрымліваць самую шчыльную сувязь з „Тэрармейцам". Рэдакцыя ўпэўнена, што гэтая сувязь установіцца ў самым хуткім часе і што кожны сьвядомы пераменьнік стане нашым сталым і актыўным вайскорам.

# Без паміжзборавай работы—няма тэрытарыяльнага будаўніцтва

**Фрунзэ**

## ПРА ПАМІЖЗБОРАВУЮ ПРАЦУ

Агульныя зборы ня могуць даць дастатковых ведаў для чырвонаармейца і камандзіра-пераменьніка. Адгэтуль досыць вялікая частка баявой падрыхтоўкі тэрчастак кладзецца на паміжзборавую працу. Начсклад і чырвонаармейцы перскладу павінны памятаць, што баяздольнасьць іх частак, у шмат чым, залежыць ад іх актыўнага ўдзельнічаньня ў вайсковай рабоце паміж зборамі.

З узростам нашае гаспадаркі расьце, і будзе расьці тэхнічная магутнасьць Чырвонай арміі, а гэта нас абавязвае добра ведаць тэхнічныя сродкі барацьбы, каб умець іх прыстасоўваць да боя.

Мінулыя манэўры паказалі, што дывізія ў сваёй падрыхтоўцы шагнула наперад, але, у пэрагу з гэтым, маюць месца і досыць вялікія недахопы, зьнішчэньне якіх і будзе галоўнай задачай на бягучую зіму. Начсклад кадру павінен зараз-жа прыступіць да шырокага растлумачэньня байцам недахопаў у іх баявой падрыхтоўцы, рашуча паставіўшы перад кожным пераменьнікам задачу і шляхі зьнішчэньня недахопаў.

Вайсковыя куткі, што арганізаваны на раёне камплектаваньня, вельмі часта ўвешаны плякатамі, ня маючымі ніякага дачыненьня да вучобы пераменьніка. Яны не зьяўляюцца базаю для паміжзборавай работы. Трэба абсталяваць куткі, забясьпечыўшы іх вучэбнымі прыладамі, падручнікамі і вучэбнымі наочнымі дапаможнікамі.

Трэба, каб вайсковы куток дапамагаў пераменьніку выконваць свае індывідуальныя заданьні.

Гурткі вайсковых ведаў павінны ў першую чаргу, праз выкананьне праграм, дапамагчы пераменьніку зьнішчыць тыя недахопы, якія меліся ў яго частцы.

Яшчэ ня ўсюды арганізаваны вайсковыя гурткі з адных пераменьнікаў, што затрымлівае баявую падрыхтоўку іх; зьнішчэньне гэтага недахопу—абавязак начскладу кадра. Трэба паставіць задачу--уцягненьне ў работу вайсковага гуртка ня менш, як 50 проц. перскладу.

Праз гурткі ды іншыя формы работы мы павінны разьбіраць пытаньні ўзьнімаючыя кваліфікацыю байца да ўзроўня запатрэб сучаснага бою. У задачы баявой падрыхтоўкі ўваходзіць, як галоўнейшая задача, падрыхтоўка палітычная. трэба каб пераменьнік добра ведаў задачы, што стаяць перад Чырвонай арміяй, быў у курсе палітыкі партыі і сав. улады і зьяўляўся актыўным удзельнікам яе правядзеньня.

Ні ў якім выпадку нельга забываць пра фізычную і стралковую падрыхтоўку. Жыцьцё высоўвае гэтае пытаньне з усёю рашучасьцю.

Па прыкладу мінулых год уся работа па сваіх формах будзе падзяляцца на абавязковую і дабраахвотную. У лік абавязковых на бягучы пэрыяд уваходзяць тры кароткатэрміновых зборы, якія будуць зьяўляцца паверкаю работы па самаўдасканальнасьці.

Вопыт мінулых год паказвае што індывідуальныя заданьні выконваюцца слаба, неабходна ў гэтым годзе больш рашуча патрабаваць ад нашага пераменьніка выконваньня заданьняў, аказваючы ў гэтым яму дапамогу.

Акрамя ўсяго гэтага, у зімовы пэрыяд мяркуецца правесьці адны заняткі з пераменным складам, што дасьць магчымасьць яшчэ больш замацаваць і ўзьняць іх вайсковыя веды.

Асноўнай формай работы з пераменным начскладам будзе: дача індывідуальных заданьняў у выглядзе: тактычных задач. Адказы на канкрэтныя тактычныя пытаньні будуць залічвацца ў канцы зімовага пэрыяду.

*Пігін.*

## Сярод рабочых вайсковая справа ідзе

У раёне нашай роты налічваецца 4-ры вайсковых куткі пры фабрыках „Спартак“, „Барацьба“, у нардоме і пры Рыжкаўскім с/с. Іх матар'яльнае забесьпячэньне можна лічыць дастатковым. Пры усіх кутках існуюць вайсковыя гурткі, з якіх, да рэчы, горш усіх працуе той, што пры сельскім савеце, пад бокам у начальства.

Ці адчуваецца ў гуртках дзейнасьць нашага пераменьніка?

Пакуль што—мала. Пераменьнік больш цікавіцца толькі стральбою, а ў гуртках актыўна працуе іншая моладзь. Трэба адзначыць добрую работу загадчыка гуртку тав. Грыцука, пад кіраўніцтвам якога за мінулае лета праведзена 37 вайсковых заняткаў.

Каб пасунуць вайсковую работу яшчэ далей, неабходна ўвага мясцовых працаўнікоў да гэтай работы. Каб уцягнуць у яе пераменьніка, трэба каб начсклад нашых частак больш бываў на раёне.

*Бурмістраў.*

## Наладзіць працу можна, але не наладжваюць

У раёне Галаўчына да прыезду начскладу з палка ніякай вайсковай работы ні сярод пераменьнікаў, ні сярод насельніцтва ня было. А між тым умовы да разгортваньня гэтай надзвычайна важнай работы ёсьць.

Перш усяго наглядаецца ў моладзі вялікае жаданьне навучацца вайсковай справе. Па-другое, ёсьць камсамольская ячэйка і партыйная. У складзе ячэйкі ёсьць камандзір запасу. Але, як відаць, ячэйкам няма ахвоты да гэтай работы, ім не да ваенізацыі.

Начсклад за кароткі тэрмін здолеў правесьці тры стрэльбы, у якіх прыняло ўдзел 34 пераменьнікі, 18 сяброў ТДА-Авіяхэму і 8 дапрызыўнікаў. Зроблены даклад пра вайсковую небясьпеку і абарону краіны; аформлена ячэйка ТДА-Авіяхэму, арганізаваны групы па распрацоўцы дадзеных заданьняў на вайскова-палітычныя тэмы.

Да рэчы сказаць, ёсьць у Галаўчыне і бібліятэка, дзе шмат маецца патрэбных вайсковых кніг, але на вялікі жаль яны заўсёды пад замком.

Трэба мясцовым работнікам менш зварачваць увагі на скокі, а больш на вайсковую прапаганду.

**К.**

## ТДА-Авіяхэмаўскія навінкі

### Хутка 4-я лётарэя

Акрсаветам з пачатку сьнежня месяца г. г. будуць атрыманы лётарэйныя білеты. Патрэбна рабіць заяўкі. Плянам акрсавету прадугледжана правядзеньне конкурсу на лепшую арганізацыю па распаўсюджаньні.

***

Пры акрсавеце адчынілася бюро завочнага абучэньня і курсы па падрыхтоўцы начскладу запасу.

***

Усім ячэйкам і райрадам патрэбна хутка, згодна паказаньняў прэзыдыуму, прадставіць зьвесткі аб колькасьці сяброў ТДА-Авіяхэму на 1-е кастрычніка г. г. па катэгорыям.

***

Акрсавет мае на продаж стрэльбы, патроны і мішэні ў дастатковай колькасьці.

Ячэйкам т-ва даецца крэдыт да 2-х мес.

***

Да дню 12-ае гадавіны Кастрычнікавае рэвалюцыі акрсаветам арганізаваны вайскова-хэмічны куток у Доме Селяніна для правядзеньня вайсковае працы сярод сялян, што наведваюць Дом.

# Мы хочам міра, каб будаваць сацыялізм
# Буржуазія рыхтуе вайну

## Будзем гатовы да адпору ворагаў, будзем узмацняць вайсковую магутнасьць краіны саветаў

## Усю работу таварыства дапамогі абароны і Авіахэму— пад кантроль мас

### Магілеўская арганізацыя ТДА-Авіахэму пачынае самаправерку сваёй працы

Згодна пастановы цэнтральнага савету ТДА-Авіахэму Беларусі, Магілеўская арганізацыя распачынае кампанію самаправеркі, гэта значыць, поўнага перагляду сваёй работы. Магілеўскі ТДА-Авіахэм — буйная арганізацыя, якая ў справе дапамогі абароны краіны зрабіла шмат. Праз шырокую сетку ячэек, праз шматлікія гурткі вайсковых ведаў, праз розныя курсы, праз разнастайныя іншыя формы сваёй работы Магілейскі ТДА-Авіахэм уцягнуў ў вайсковую працу тысячы працоўных Магілеўшчыны. Але-ж вайсковая небясьпека ня страціла ўсёй сваёй вострасьці і на нашай арганізацыі ляжаць і надалей вельмі адказныя задачы па ўзьняцьці абароназдольнасьці краіны Саветаў. Таварыству перадаецца шмат новае працы, як абавязковае вайсковае навучаньне, шырокая ліквідацыя вайскова-хэмічнай няпісьменнасьці ды інш. Гэта ўсё патрабуе напружанай работы кожнай ячэйкі, шпаркага тэмпу працы, паляпшэньня якасьці працы.

А недахопаў нашыя ячэйкі, нашыя раённыя арганізацыі, наш акруговы савет маюць ня мала. Яны затрымліваюць посьпехі работы. Кампанія самаправеркі і мусіць выкрыць хваравітыя бакі працы, моцна па ім ударыць, улічыць вопыт добрай работы і перанесьці яго на ўсю арганізацыю акругі. Трэба ня спыняцца перад тым, каб адклікаць з кіруючай работы ўсіх тых таварышоў, якія ня хочуць працаваць у Авіахэме, якія затрымліваюць нядбалымі адносінамі работу таварыства. На зьмену ім трэба ўцягнуць лепшы актыў пралетарскае часткі арганізацыі: рабочых, батракоў, беднякоў і інш. Трэба пазбавіць нашую арганізацыю ад варожых нам элемэнтаў—кулакоў, нэпманаў і ім падобных, якія дзе-нідзе пралезьлі ў нашыя ячэйкі. Трэба ўцягнуць увесь начсклад запасу ў практычную працу таварыства, неабходна больш шырока ўцягнуць і спэцыялістаў—аграномаў, інжынэраў, тэхнікаў, праз каторых мы зможам лепш паставіць нашую мірную працу, працу па сацыялістычнай перабудове сельскае гаспадаркі. Гэтай мірнай працаю нашыя ячэйкі, трэба прызнаць, займаліся да апошняга часу вельмі мала.

Як-жа праводзіць гэтую самаправерку нашага таварыства? Трэба зараз-жа праз справаздачныя сходы заслухаць і ахапіць жорсткаю самакрытыкаю работу кіруючых органаў арганізацыі зьверху да нізу, пачынаючы ад бюро ячэйкі і канчаючы акруговым саветам. Неабходна перагледзіць увесь склад сяброў у кожнай ячэйцы, асабліва склад бюро ячэек і вызначыць, як хто працаваў, даць кожнаму працу і сачыць за яе выконваньнем. Разам з тым ні ў якім разе ня спыняць далейшага пашырэньня шэрагаў арганізацыі, а ўцягваць у яе новых сяброў. Слабае нашае месца—праца ў калгасах і камунах, дзе амаль што няма нашых ячэек.

Грашовыя справы арганізацыі патрабуюць асабліва пільнай праверкі. Ліквідаваць запазычанасьць, праверыць, як паступаюць сяброўскія уклады, працэнтнае адлічэньне, наладзіць наогул грашовыя справы ў кожнай ячэйцы, у кожным райсавеце—вялікая і адказная праца ў часе самаправеркі.

Ваенная праца, праца сярод жанчын, праца сярод моладзі, праца з дабраахвотнікамі, як і ўся іншая праца Магілеўскай арганізацыі не павінна быць прапушчаны міма самаправеркі. Трэба перагледзіць, як яны працуюць. Тэрмін самаправеркі вызначаны з паловы лістапада па 1-ае студзеня 1930 году. Трэба неадкладна яе распачаць.

Пралетарская грамадзкасьць Магілеўшчыны, праз кампанію самаправеркі работы ТДА-Авіахэму, павінна яшчэ больш прыцягнуцца да дапамогі ў справе абароны сацыялістычнай дзяржавы, тэй адзінай у сьвеце дзяржавы, якая на чале з Ленінскай партыяй будуе сацыялізм.

*А. С.*

## Перамеьнік, прыймай актыўны ўдзел

### у працы сваёй ячэйкі ТДА-Авіахэму!

Наступаючы зімовы пэрыяд павінен зьявіцца ва ўсёй нашай рабоце пэрыядам мабілізацыі ўвагі працоўных да пытаньняў вайсковае небясьпекі. Зімовы-ж пэрыяд павінен замацаваць практычнай работай той уздым зацікаўленасьці да пытаньняў абароны, які маюць працоўныя масы ў зьвязку з падзеямі на Далёкім Усходзе.

Ва ўсёй практычнай рабоце ячэек і райсаветаў, па зьнішчэньні вайскова-хэмічнай няпісьменнасьці, самаправерка і сацыялістычнае спаборніцтва павінны стаць сталым мэтадам работы арганізацыі.

Плянам акрсавету ў асноўным прадугледжваецца: абавязковае ваеннае навучаньне, работа сярод актыву, пры жактах, пашырэньне стралковага спорту і вайскова-тактычных заняткаў, асобная работа сярод жанчын, вайсковая работа ў рабочых клюбах, максымальнае снабжэньне ячэек вайсковымі прыладамі, статутамі, літаратурай, стралковымі прыладамі, работа сярод дабраахвотнікаў і вырашэньне іншых практычных пытаньняў.

Зімовы пэрыяд працы павінен зьявіцца ўступленьнем нашай акруговай арганізацыі ў сацыялістычнае спаборніцтва і масавай падрыхтоўкай працоўных Магілеўшчыны ў вайсковых справах.

*Бельскі.*



## Муніцыпальныя выбары ў Нямеччыне

Нямецкая кампартыя энэргічна рыхтавалася да муніцыпальных выбараў у Бэрліне. Праводзіліся шматлікія прадвыбарчыя сходы, мабілізаваны „чырвоная кавалерыя“ і рэвалюцыйныя рабочыя. спартыўныя арганізацыі, якія вялі прапаганду на бэрлінскіх вуліцах.




**На здымку**: прадвыбарчая прапаганда „чырвонай кавалерыі“ і бэрлінскіх рабочых-спартсмэнаў на вуліцах Бэрліну з плякатамі.

## Што новага ў дывізіі

### Беларусізацыя палкавых школ

Згодна пляну беларусізацыі дывізіі, палкавыя школы ў гэтым годзе цалкам пераводзяць сваю страявую і палітычную вучобы на беларускую мову.

### Як жыве наш чырвонаармейскі калгас

Калгас „Чырвонаармеец“, што арганізаваны байцамі нашай дывізіі зараз налічвае 40 чалавек, ня лічачы сяброў іхных сем'яў.

Калгасьнікамі пры актыўнай дапамозе частак дывізіі засеяна 60 гэктараў. Заворана-ж пад яр 250 гэктараў.

Пасаджаны сад на 1500 дрэў.

Дывізія купляе калгасу трактар, на які грошы сабралі чырвонаармейцы і начсклад.

Увесну калгас прыступіць да шырокага будаўніцтва; будзе пабудавана тры 2-х павярховыя дамы, амбар, хлеў, майстэрні, лазьня і некаторыя іншыя будынкі.

### Маладняк падпісваецца на 3-ю пазыку

**Рота сувязі.** Маладыя байцы, што ў гэтым годзе прызваны ў армію, падпісаліся на пазыку на 715 р., падпіскай ахоплена 97 проц. усіх чырвонаармейцаў.

**Сапрота.** Маладняк сапроты дывізіі на пазыку падпісаўся на 100 проц. Падпіска дала 250 рублёў.

**Кавэскадрон.** Усе, як адзін, маладыя чырвонаармейцы падпісаліся на пазыку. Агульная сума падпіскі 420 р.

### Перагляд шэфства па часткам дывізіі

Палітычны аддзел дывізіі ўзьняў пытаньне пра перагляд сатаварыства частак дывізіі з грамадзянскімі арганізацыямі. Прычыны гэтаму—ёсьць часткі, якія ня маюць шэфскіх арганізацый; іншыя-ж іх маюць некалькі.

## Хто атрымаў прэмію па конкурсу „Тэрармейца“

Камісія па конкурсу-спаборніцтву на лепшае правядзеньне манэўраў пастанавіла:

Прэмію за лепшую частку па тактычнай падрыхтоўцы выдаць №-му стралковаму палку.

Прэмію за лепшае харчаваньне ў час манэўраў выдаць №-му стралковаму палку.

Прэмію за лепшую ўстойлівасьць палітыка-маральнага стану выдаць артпалку.

Вызначыць прэмію за лепшае захоўваньне сіл і здароўя чырвонаармейцаў, якую выдаць роце сувязі дывізіі.

Прэмію за найбольшую актыўнасьць у справе прапаганды і практычнай дапамогі ў правядзеньні генэральнае лініі партыі ў вёсцы выдаць №-му стралковаму палку.

Прэміі перадаць вызначаным часткам, кожнай па 60 рублёў, на ўзмацненьне паміжзборавае работы ў раёне камплектаваньня таго падзелу, які лепш вызначыўся па рабоце ў час манэўраў.

Прэміраваць каштоўнымі падарункамі лепшых, прадстаўленых у камісію, наступных чырвонаармейцаў, што дапамагалі сваім прыкладам, непасрэднаю працаю і асабістымі дасягненьнямі ў баявой працы правядзеньню конкурсу-спаборніцтва:

т. **Данулушкіна** з №-га палка, т. **Сукача** і т. **Бадунова** з №-кага артпалка і т. **Саўчкова** з роты сувязі.

Старшыня камісіі *Шавалдзін.*